


№ 3. ЛІПЕНЬ 1937 г.

# СЬВЯТЫЯ БРАТЫ КІРЫЛА І МЯФОД — ПЕРШАВУЧЫЦЕЛІ І АСЬВЕТНІКІ СЛАВЯН.

З нагоды 1075-х угодкаў вынаходу славянскай азбукі.

Беларусы — разам з палякамі, расейцамі, украінцамі, сэрбамі, баўгарамі, чэхамі, маравамі, славакамі, харватамі і інш. — належаць да сям'і славянскіх народаў.

Даўно, даўно таму ўсе славяне былі па веры паганцамі, ня знали Ісьціннага Бога, былі цёмныя, поўныя ўсялякіх забабонаў; яны ня мелі граматы, таму не маглі ні чытаць ні пісаць. Карыстаючыся іх цемнатою і някультурнасьцю, суседнія народы, больш асьвечаныя і арганізаваныя, нясьлі славянам паняволеньне і сілаю накідвалі ім чужую мову і культуру.

Прайшлі вякі, і цяпер ўжо ўсе славянскія народы па веры хрысьціяне, маюць цэрквы, школы, кніжкі і жывуць шырокім культурным і нацыянальным жыцьцём.

Хто-ж асьвяціў славян сьвятлом Ісьціннае хрысьціянскае веры? Хто вывеў іх на шлях народнае культуры і асьветы?

Гэта — заслуга сьвятых братоў Кірылы і Мяфода, празваных Першавучыцелямі, Асьветнікамі і Апосталамі славян.

Радзіліся яны ў IX веку на паўдні ў Македоніі, якая была пад уладаю праваслаўных Візантыйскіх Імпэратараў. Бацькі

Кірылы і Мяфода былі багатыя і знатныя людзі. Яны ўзгадавалі дзяцей сваіх у духу праваслаўнае веры і хрысьціянскае набожнасьці.

На розныя дарогі выйшлі браты з хаты бацькоў, скончыўшы адукацыю. Старшы Мяфод назначаецца хутка „на славянскае княженіе", г. зн. начальнікам таго краю, з якога і паходзіў і дзе было шмат славян. Малодшы-ж Кірыла (яго сьвецкае імя Канстанцін) выклікаецца ў сталіцу, каб там разам з дзяцьмі імпэратара прадаўжаць адукацыю, разумеецца, пад кіраўніцтвам найлепшых вучыцялёў.



Кірыла не спакусіўся багацьцем і славаю, якую мог мець дзякуючы блізкасьці сваей да імпэратарскае сям'і: ён тайна, праз нейкі час, пакідае двор і прыймае манашскі пострыг, г. знач. робіцца сьвяшчэньнікам. Тое самае хутка зрабіў і сьв. Мяфод.

У манастырох браты пасьвяцілі сябе чытаньню і вывучэньню кніг Сьвяшчэннага Пісаньня. Так цягнулася, пакуль Промыслам Божым сьв. браты ня былі пакліканы на тое служэньне, для якога былі прызначаны.

У 862 г. ў сталіцу Візанты і прыехалі паслы ад Мараўскага князя Расьціслава прасіць вучыцялёў, якія-б навучылі яго народісьціннай веры, пры тым у роднай яго мове. Чым была выклікана гэтая просьба з боку Расьціслава? А тым, што маравы не разумелі пропаведзі нямецкай і багаслужэньня ў лацінскай мове, якое стараліся накінуць ім прыбылыя з Рыму і Нямеччыны лаціна-нямецкія прапаведнікі. Іхная мова здавалася маравам „языком нямых для нямых".

Імпэратар запрапанаваў ехаць у Маравію сьв. братом, як найбольш да таго падгатаваным і знаючым славянскую мову. Кірыла і Мяфод згадзіліся, але перад тым, як ехаць, Кірыла пачаў апрацоўваць славянскую азбуку і перакладаць на славянскую мову праваслаўнае багаслужэньне і некаторыя месцы з кніг Сьв. Пісаньня, якія чытаюцца ў царкве падчас багаслужэньня.

Перад ад'ездам сьв. Кірыла быў высьвячаны на япіскапа. Калі прыехаўшы ў Маравію сьв. браты адразу пачалі багаслужэньне і пропаведзь на роднай славянскай мове, князь і ўвесь народ быў вельмі з таго задаволены і як кажа жыцьцяпіс сьв. братоў — „отверзлися уши глухихъ къ слышанію книжныхъ словесъ и службъ Божіихъ и у нѣмыхъ сталъ языкъ ясенъ". Хутка і ўсё духавенства, цяпер ужо выбіранае з народу, перайшло ў царкве на славянскую мову. Прывезеныя сьв. братамі кнігі перапісваліся і ў вялікім ліку пашыраліся. З Маравіі яны йшлі ў іншыя славянскія краіны, як: Панонія, Сэрба-Харвацыя, Баўгарыя (там сьв. браты ахрысьцілі на веру праваслаўную князя Барыса), Чэхія і інш., аж да граніцаў Польшчы.

Ня лёгка было працаваць сьв. братом у Маравіі, хоць сам папа рымскі Адрыян багаславіў апостальскія труды сьв. братоў, пахваліў зроблены імі пераклад кніг і зацьвярдзіў багаслужэньне ў славянскай мове.

Пасьля сьмерці сьв. Кірылы, сьв. Мяфод да самага канца свайго жыцьця (памёр ён у 885 г.) працаваў — са сваімі вучнямі — над перакладам кніг на славянскую мову. За ўжываньне славянскае мовы ў багаслужэньні сьв. Мяфода цягалі па судох і трымалі ў вастрозе; там у кайданох стары Архіяпіскап прамучыўся каля трох гадоў.

У выніку працы сьв. братоў славянскія народы атрымалі на сваей мове ўсе кнігі Сьв. Пісаньня і кнігі, якія ўжываюцца праваслаўнымі падчас багаслужэньня.

Гэтыя самыя кнігі атрымалі некалі і продкі беларусаў, калі прынялі праваслаўную веру, якая йшла да іх праз Кіеў і Ноўгарад. Гэтымі самымі кнігамі карыстаемся і мы цяпер, як у царкве, так і ў хаце і ў школе, пры навучаньні ісьцінам нашае веры.

Апрацованая сьв. Кірылам азбука ёсьць тая самая **кірыліца**, якую беларусы ўжывалі на працягу ўсяго свайго 1000-гадовага існаваньня, якая ёсьць беларускім гістарычным і нацыянальным шрыфтом, якою амаль выключна друкуюцца і цяпер усе беларускія кнігі і часапісы і якою друкуецца і вось гэты „Снапок".

Свв. Кірыла і Мяфод — гэта нашыя настаўнікі, нашыя апосталы, нашыя бацькі. Іх пераклад кніг на славянскую мову прычыніўся да аб'яднаньня ўсяго славянскага сьвету і пачаў культурнае і нацыянальнае адраджэньне ўсіх славянскіх народаў, у тым ліку і беларусаў, бо захаваў ім мову, як першую аснову ўсяго духовага разьвіцьця і культуры народу.

Як-жа пасьля гэтага павінны мы, беларусы, берагчы і захоўваць славянскую мову ў царкве.

Памяць сьв. Кірылы і Мяфода сьвяткуецца Праваслаўнай Царквою 11/24 траўня.

## ЭЛЕГІЯ.

Пашлі пацеху сваю, Божа,
таму, хто выцягнець руку,
начлегу хто знайсьці ня можа
па цьвёрдым блудзячы бруку;—

Хто зморaны каля агрэды,
як падарожнік ідучы,
ў зялёнай сьвежай цішы саду
ня мае часу адпачыць.

Не для яго і цені — чары
сьплятаюць лісьця як дыван,
не для яго бялее хмарай
у паветры звонячы фантан.

І схоў, як з сіняга туману,
яго ня можа атуліць,
імгла сьцюдзёнага фантану
яго грудзей не асьвяжыць.

Пашлі пацеху сваю, Божа,
таму, хто выцягнець руку,
начлегу хто знайсьці ня можа
па цьвёрдым блудзячы бруку.

**Пераклад з Тютчева.**

## НАРОДНЫЯ ЗВЫЧАІ І ПЕСЬНІ.

Зямля ад веку карміцелька беларуса. На зямлі сядзелі, на зямлі працавалі яго дзяды і прадзеды. Ад зямлі залежыць усё жыцьцё, дабрабыт і шчасьце беларуса і яго сям'і.

Праца на зямлі цяжкая. Яна абыймае ўсё жыцьцё селяніна-беларуса, займае многа часу, адбірае яго сілу, яго здароўе. Часта гэтая праца марнуецца надарма. Бывае, што ў некалькі мінут руйнуецца багацьце, якое зьбіралася цэлымі пакаленьнямі.

Каб аберагчы сябе і сваю гаспадарку ад усялякага няшчасьця, наш селянін, глыбока адданы веры бацькоў, зварочваецца з малітваю да Бога, просячы ў Яго помачы і багаславеньня на сваю працу.

Адгэтуль паўстаў цэлы рад звычаяў, датарнованых да тых ці іншых сьвятаў ці сьвятых Праваслаўнае Царквы. Так —

**На Юр'я** гаспадыні з малітваю выганяюць першы раз у поле хатнюю жывёлу, — выганяюць вербачкамі, якія асьвечаны ў царкве на Вербніцу.

На Юр'я-ж гаспадары йдуць глядзець засеяныя палі, бо ў гэты дзень — так верыць народ — сам сьвяты Юры ходзіць аглядаць жыта з расою. Быццам яго пасылае сама Божая Маці, кажучы:

Юры, уставай рана,
адмыкай зямлю,
выпушчай расу,
на цёплае лета,
на буйнае жыта
на ядраністае,
на каласістае,
людзям на здароўе.

Гаспадары йдуць раненька, з усходам сонца. Кожны нясе завінены ў чысты абрус баханчык хлеба ці пірага, асьвечанага на Вялікдзень. Прыйшоўшы на сваю паласу, гаспадар становіцца на калені, моліцца, а пасьля з малітваю-ж кладзе хлеб у жыта. Абыйшоўшы ўсё сваё поле, гаспадар вяртаецца да хаты.

У Ашмяншчыне на Юр'я, пасьля службы ў царкве, пакуль народ не разыйшоўся з пагосту па сваіх хатах, хлопцы выглядаюць для сябе нявест, а дзяўчаты—жаніхоў. Да гэтага звычаю ёсьць прыстасаваныя песьні, так напрыклад:

Юр'я, сыры бор гарыць!
—А што ў тым бары стаіць?
Стаіць новая клетка.
—А што ў той клетцы ляжыць?
Лапці і аборы, дзяцюцкія
ўборы.

Юр'я. сыры бор гарыць!
—А што ў тым бары стаіць?
Стаіць новая скрыня.
—А што ў той скрыні ляжыць?
Сукні і суборы, дзявоцкія
ўборы.

**Напярэдадні веснавога Міколы** дзяўчаты зьбіраюць кветкі (капытнік, стакротка, расходнік і інш.) і ўюць з іх вянкі, — ўюць з адпаведнымі песьнямі. Гэтымі вянкамі ўпрыгожваюць сьвечкі, якія ўжо на самага Міколу — нясуць у царкву. Пасьля асьвячэньня дзяўчаты вяртаюцца да дому і асьвечанымі вянкамі прыбіраюць сені і хату. Вось адна з песьняў паводле гэтага звычаю.

Пойдзем, дзявочкі,
У лугі, лужочкі
Завіваць вяночкі.
Мы заўём вяночкі
На годы добрыя,

На жыта густое,
На ячмень каласісты,
На авёс расісты,
На грэчку чорную,
На капусту белую.

**На другі дзень Сёмухі** пастухі абходзяць гаспадароў і зьбіраюць яйкі, масла, сала і хлеб. З яек пякуць яешню ў полі. Прыходзяць гаспадары. Калі яешня гатовая, пастухі зганяюць скаціну ў грамаду і абносяць яешню тры разы навакол скаціны. Пасьля трэцяга разу адзін з пастухоў кідае сырое яйко ў сярэдзіну гурта, каб каровы былі поўныя і круглыя, як яйко. Тады пачынаецца частаваньне гаспадароў яешняю. Гэты звычай захаваўся ў Браслаўшчыне.

Усюды на Беларусі дзеці на Сёмуху рвуць на балоце аер, якім пасыпаюць у хаце, сенях, на панадворку і з вуліцы каля дому, асабліва, калі адбываецца асьвячэньне палёў і скаціны.

**Зелянец** (10-ы чацьвер ад Вялікадня) адзначаецца пашыраным амаль па ўсёй Беларусі звычаем асьвячэньня ў царкве рознага зельля і траваў, пераважна лекарскіх. Гэтыя травы даюць дзецям піць у часе хваробы, імі лечаць скаціну, іх закладаюць пад стрэхі будынкаў процію віхроў, грому і г. д.

(працяг будзе)

# МУХАМОР.

Бабім летам да зары,
у зялёным гушчары, —
дзе мох сьцелецца рабы, —
паспрачаліся грыбы.
На ўвесь лес—зялёны бор
расхваліўся мухамор,
што пад шапкай маку—цьвет
ён дзяцюк на цэлы сьвет.
Боты, гузікі гараць,
яму дзеўкі не дабраць
ў цэлым лесе, пад сасной,
ні багацтвам, ні красой.
Мог-бы сьмела быць паслом,
або нават і царом, —
не сядзець век у траве,
ды разумнай галаве!...
— Ты хваліцца лепей кінь! —
яму радзілі рыжкі, —
плёткі слухае твае,
падасінавік злуе.
На чырвоны твой язык
скасюрыўся чашчавік,
табе ўсыпяць пад бакі
калі — небудзь казьлякі...
— Мне начхаць на вас, на бор!
горда кажа мухамор, —
калі біцца — паглядзім,
хто паставіць на сваім!...
А залёгшы у траве
ўсё падслухаў муравей,
там дзе мох і дзераза
сыраежцы расказаў.
Ды ў зялёным у бары
гэта чулі камары,—
яны вестку разьнясьлі
ўсім апенкам на зямлі.
А ваўнянкам у паўдні
раззванілі авадні...
Болей, як вясной у жаб,
было гутаркі у баб.



Аж прачнуўся на той крык
пад яленцам баравік,
дзе пад мохам, як парсюк,
спаў, глухі як цецярук.
І пачаў ён развадзіць,
мудра радзіць і судзіць,
расшумеўшыся між траў,
нават галаву падняў...
Дзе мох сьцелецца рабы,
ішлі дзеці па грыбы, —
асьцярожная рука
падняла баравіка.
Пайшлі ў кошык казьлякі,
сыраежкі і рыжкі...
Рагаталі дзеці, бор,
рагатаў і мухамор.
І паказваў — крычаў,
дзе схаваліся між траў,
падасінавік стары,
дзьве ваўняначкі — сястры...
Як пакінулі ўсе лес,
у вячэрняй у імгле
шышкай галаву падпёр,
затужыў і мухамор,
што нявесела яму
ў цёмным лесе аднаму,
у цёмным лесе, у бары,
няма з кім пагаварыць.
На‘т сьмяюцца ў паўдні
з мухамора авадні,
а зара як дагарыць,
усё звоняць камары
ад сасны і да сасны,
што ёсьць грыб—благі, дурны...
Мухамор эх, мухамор!
Эх, сасновы цёмны бор!

4.VI. 1937. **Максім Танк.**

13 гэтага чэрвеня Пінская праваслаўная епархія ўрачыста сьвяткавала 25-угодкі служэньня ў сьвяшчэнным сане і 15-угодкі архіерэйскай хіратоніі Высокапрэасьвяшчэннага Аляксандра, Архіяпіскапа Палескага і Пінскага.

## ЯК ПЯЮЦЬ ПТУШКІ.

ЛАСТАЎКА. Чые дзеці? Ма-тэ-уш-чы-ны. Перапілі, пераелі, пера-луш-чы-лі! Ой, нікому так ня добра, як таму пастуху: дома жарэ, у поле бярэ і прыгнаўшы есьць, есьць, есьць!

САЛАВЕЙ. Кіем, кіем, кіем! па пятах, па пятах, па пятах! Тах, тах, тах! Цюрру, цюрру, цюрру, цюрр! перадаў, перадаў! цюх, цюх, цюх! злавіў, злавіў, злавіў! Дзяржы, дзяржы, дзяржы! Ціха, ціха, ціха! Залаб, залаб! круці, круці! так, так, так!



**Звоніць поле доляй, воляй...**

## ЛЕТАМ У НАШЫМ САДЗЕ.

Сонца ўжо мінула найвышэйшы пункт у небе і пачало паволі апускацца, кідаючы косыя праменьні. Хаця сьпякота і пачала відучы зьмяншацца, але яшчэ горача. Вось там, недалёка, зараз-жа за будынкамі, буйна зелянее, раскошна купаецца ў сонцы наш сад. Так і хочацца заглянуць, пацікавіцца, што там робіцца.

Ды і ня дзіва. Бо што-ж можа быць больш панадным у сьпякотны ліпнёвы дзень, як цяністы куток у садзе, як сакавітыя ягады і плады, якія мы там знойдзем?

Ад вясны ў садзе многа што зьмянілася. На дрэвах на мейсцы цьвету ўжо плады. Яны яшчэ дробныя, але густа пакрываюць галіны. Найбольш пладоў маюць маладыя дрэвы,

добра дагледжаныя старанным гаспадаром. Яшчэ раньняй вясной їм былї паабразаныя сухія і хворыя галіны, кара знізу паскрабаная і пабеленая вапнай, зямля навакол перакапаная і добра ўгноеная. З засыпаных пладамі сукоў відаць, што дрэвы за добры, старанны дагляд гатуюць свайму гаспадару багаты дар.

Вішні, каторыя цьвілі раней за іншыя дрэвы, раней пачынаюць і складаць сваю даніну з ягад, бо пачалі дасьпяваць ужо ў канцы чэрвеня. І цяпер адны ясьнейшыя, другія зусім цёмныя, прыгожа зьвісаюць, панадна чырванеюць між зялёных лістоў. Толькі рваць ды есьці.

Але ня толькі мы знаемся на іхнім смаку. Ня горшыя за нас ласуны і нашыя пяюны—птушкі: вераб'і, шпакі, вішнёўкі. Быстрым зрокам бачаць яны чырвань сьпелай ягады і ласа аб'ядаюць сакавіты, смачны мякіш. І таму так часта можна бачыць на дрэве пакляваную ўжо ягаду, а то і самую толькі костачку.

Апрача вішняў, у садзе ўжо ёсьць многа іншых ягад. Кожны тут можа выбраць сабе нешта да спадобы: ці туга налітыя, празрыстыя ягады агрэсту, ці чырвоныя парэчкі, ці сакавітыя і салодкія маліны.

Сьлівы, яблыкі ды й грушы, — хаця некаторыя ўжо і павырасталі даволі вялікія, — яшчэ зялёныя. Хутка аднак ужо жыцьцядайныя праменьні гарачага ліпнёвага сонца вызалацяць іх, зарумяняць і так высьпеляць, што ня толькі самыя плады будуць пахучыя, мяккія і салодкія, але нават шчарнеюць схаваныя ў глыбі белыя зерняткі.

Толькі на некаторыя зімовыя яблыкі ды йгрушы прыйдзецца яшчэ доўга пачакаць — аж да познай восені.

Харошы, мілы і прытульны наш цяністы, зялёны сад у ліпні. І таму так ня хочацца нам яго пакідаць.

Т.

## КАСЦЫ.

Касец за касцом выступае,
касец даганяе касца —
адважна і мерна шагаюць
далей і далей без канца.
І сыплюцца мерна узмахі
навостраных кос на траву,
і гіне, бяз жалю і страху,
жывая краса на лугу.

**М. Машара.**



# ХТО Ў ПУШЧЫ? ХТО Ў ЛЕСЕ?

Народная казка.

У аднаго гаспадара была дзяўчынка — сіротка. Ёй было восем гадкоў, калі памёрла яе маці. Паміраючы, яна гэтак загадвала сваёй дачушцы: „слухайся бацькі, родненькая, памагай яму, даглядай; ты — падпора яго старасьці. І да ўсіх будзь ласкавая , добрая, то і табе будзе добра“.

Праз нейкі час гаспадар узяў сабе другую жонку. Яна была ўдава і мела сваю дачку. Мачаха ня любіла падчаркі, бо яна была на ўсё сяло першая красуня. Мачаха і яе дачка зайздросьцілі падчарцы. Мачаха мучыла яе ўсялякімі цяжкімі работамі, каб тая змарнела, каб ад ветру і агню пачарнела. Але дзяўчынка ўсё цярпела і больш ды больш прыгажэла, тады як мачысіна дачка ўсё марнела ад злосьці, хоць і нічога не рабіла, толькі сядзела, склаўшы белыя ручкі, як вялікая паня.

Нарэшце ня вытрымала мачаха і кажа свайму мужыку: „Што хочаш рабі, але каб мне больш ня было тваей дачкі ў хаце. Не магу жыць з ёю — ні я, ні мая дачка“.

Нічога ня зробіш з дурною бабаю: гаспадар запрагае каня і вязе сваю красуню ў лес. Дала ёй мачаха з сабою харчоў: камушок за піражок, смалячок за кумпячок, жарствы за крупы, попелу за муку. Прывёз гаспадар сваю дачку ў лес і пакінуў каля нейкай хаткі.

Яна ўзяла мяшочак з харчамі на плечы, паплакала — паплакала і пайшла ў хатку. Пасядзела яна ў хатцы, пабедавала, а пасьля давай варыць кашку. Разьвязвае мяшочак, ажно ўсё зрабілася Божым дарам: камушок стаў за піражок, смалячок стаў за кумпячок, жарства зрабілася крупамі, а попел мукою. Узяла яна жменьку круп і наварыла кашкі.

Настаў вечар. Страшна зрабілася дзяўчыне. Выйшла яна на парог і пачала клікаць.

— Хто ў пушчы? Хто ў лесе? — Прыйдзі да мяне начаваці і начаньку каратаці.

Ажно хтось адзываецца грубым голасам:

— Я ў пушчы. Я ў лесе. Іду да цябе начаваць, і начаньку каратаць!

Чуе дзеўчынка — нехта йдзе, цяжка сапе і стогне, аж пад ім гальлё ломіцца. Гэта быў мядзьведзь. Дзяўчынка, як убачыла, ну наўцёкі ў хату. Праз момант мядзьведзь падыходзіць да парога хаткі і кажа:

— Дзеўка-дзявіца, руса касіца! — Перастаў мне адну нагу.

Дзеўчынка переставіла.



— Перастаў другую! — кажа мядзьведзь.

Так дзеўчынка пераставіла ўсе чатыры нагі. Тады мядзьведзь увайшоў у хатку і кажа:

— Дзеўка-дзявіца, руса касіца! Дай мне павячэрацi.

Дзяўчынка наліла ў місачку кашы і паставіла на стол. Ядуць кашку. Ажно прыбягае мышка і кажа:

— Дзеўка-дзявіца, руса касіца! Дай мне кашкі.

А мядзьведзь і кажа:

— Дзеўка-дзявіца, руса касіца! Забі гэтую брыду.

Але яна ня забіла, а толькі знак зрабіла: набрала лыжачку кашкі і стукае па лаве: кашка адвальваецца, падае на зямлю, а мышка падбірае. А тады і кажа мядзьведзю:

— Ну, ўжо забіла.



Мышка паела кашкі і жмыгнула ў норку.

Павячэралі яны, тады мядзьведзь і кажа:

— Дзеўка-дзявіца, руса касіца! Сьцялі мне пасьцель.

— Якую-жа табе пасьцель слаць? — пытаецца дзяўчынка.

— Рад каменьняў, рад паленаў, а жалезную ступу пад галаву, — адказвае мядзьведзь.

Паслала дзеўчынка гэткую пасьцель мядзьведзю. Ён лёг і кажа:

—Дзеўка-дзявіца, руса касіца! Гасі агонь.

Дзеўчынка пагасіла. Хутка мядзьведзь і кажа:

—Дзеўка-дзявіца, руса касіца!—Давай будзем гуляць! Ты стань пры сьценцы і звані ключамі, а я буду цэліць.

На гэтую размову выбягае мышка і кажа:

— Дрэнную з табою мядзьведзь забаву прыдумаў: заб'е ён цябе каменьнямі ды паленамі. Ты лезь за печ, а мне давай свае ключы: я буду бегаць і званіць.

Дзеўчынка палезла за печ, а мышка бегае па хаце і звоніць ключамі. А мядзьведзь каменем бох! а паленом бух! па сьценцы. Мышка сама бегае і ёй нічога, а дзеўчынцы таксама нічога. Так мядзьведзь павыкідаў усе палены і ўсе каменьні, напасьледак ступу. А пасьля і пытаецца:

—Ну, ці жыва ты, дзеўчынка?

Яна адказвае: жыва, жыва!

—Назаўтра ўстаў мядзьведзь і пытаецца:

Дзеўка-дзявіца, руса касіца! Пакажы мне свае сінякі.

Яна падыйшла блізка да мядзьведзя, і таму паказалася

яшчэ лепшай, яшчэ прыгажэйшай, як была. Тады мядзьведзь і кажа:

— Цяпер ты атрымаеш ад мяне вялікую нагароду, — сказаў і пайшоў у лес.

Якраз праз той лес ехаў купец, ехаў параю коняй, харошаю брычкаю, з дарагою адзежаю і з рознаю ежаю. Пад'ехаў купец да хаткі і кажа:

—Дзеўка-дзявіца, руса касіца! На табе падарунак.

Дзеўчынка выбегла з хаткі, убралася ў купцову адзежу, пачаставалася і на купцовых конях паехала да бацькі.

Пад'яжджае пад вароты, а сучка пад сталом: „цяў-цяў!... На дзедавай дачцэ сукні шамраць і брасьлеты блішчаць"...

Мачаха набіла сучку і выгнала на двор.

А дзед адчыніў вароты і аж шапку скінуў, думае: — „Якаясь пані"?

Пазайздросьціла мачаха дзедавай дачцэ і кажа дзеду:

—Запрагай каня і вязі маю дачку ў той самы лес і на тое самае месца.

Запрог дзед каня, мачаха прыбрала сваю дачку, напякла пірагоў, наварыла мяса, дала круп, дала мукі, апранула ў харошую адзежу.

І павёз дзед бабіну дачку ў той самы лес і ў тую самую хатку.

(працяг будзе)

## АБІСЫНІЯ

(працяг — гл. № 2).

— У залежнасьці ад вышыні местапалажэньня — чытае Я. Бычок — розныя часьці Абісыніі маюць кожная свае асаблівасьці, але ў іх прыродзе ёсьць і шмат супольнага.

**Тэмпэратура**. Уся Абісынія ляжыць у гарачай паласе зямное кулі. У поўдзень сонца стаіць над самаю галавою чалавека. Пад гарачымі праменьнямі экватарыяльнага сонца трэскаецца зямля, начыста выпальваюцца стэпы.

Сярэдняя гадавая тэмпэратура (цёпластан) Абісыніі +30°, найвышэйшая дасягае +50°. На высокую тэмпэратуру, апрача знаходжаньня Абісыніі пад экватаром або роўнікам, мае ўплыў і тое, што ўся гэтая краіна паложана далёка ад мора.

—Калі там такая сьпякота, — сьмяючыся заўважыў Міхась Грыцук, — дык хоць верашчаку вары на сонцы.

—Верашчаку не верашчаку, а што яйко сьпячы можна, дык гэта напэўна, — сказаў Пётра Мароз.

—Абісынцы ня любяць варыць, нават мяса ядуць сырое, чаму часта хварэюць на жывот, — сказаў Бычок.

—А якая сярэдняя гадавая тэмпэратура ў нашай Беларусі? — спытаўся Тамковіч.

—Сярэдняя +6°, найвышэйшая летам +30°,—адказаў Бычок, і пачаў чытаць далей. —Наколькі ў Абісыніі горача днём, натолькі холадна ўночы, асабліва на горах. У некаторых мясцох розьніца тэмпэратуры даходзіць да 40 і болей градусаў у пару.

—Гэта значыць, — перабіў Грыцук, — што днём хоць голы хадзі, а ўночы апранай кажух.

— Некаторыя дзікія плямёны Абісыніі (з мурынаў або нэграў) і ходзяць заўсёды голыя або паўголыя, —адказаў Бычок. Але наагул абісынцы апранаюцца, хоць часам і сярод іх можна спаткаць голых людзей, і гэта не выклікае вялікага зьдзіўленьня ці сораму. Ось толькі шапак на галовах ня носяць і ногі ніколі ня бачаць абутку. Нават у салдатаў. Затое шмат хто, асабліва ў гарадох, носіць над галавою парасон, не эўрапэйскага, а свайго вырабу з трысьніку, лісьця і інш.

—Нашто ім шапкі, калі маюць такую густую чупрыну, — сказаў Сымон Дрозд. У іх валасы хоць кароткія, але круцяцца, і галаве ў сьпякоту нішто.

—Вялікае хістаньне за адну пару тэмпэратуры — чытае далей Бычок — вельмі шкоднае для здароўя, асабліва эўрапэйцаў, якія з прычыны гэтага дастаюць запаленьне лёгкіх. А высокае стаяньне сонца ў сваю чаргу выклікае сонечныя ўдары. Каб забясьпечыцца перад гэтым, усе эўрапэйцы носяць у Абісыніі на галовах шоламы (па-польску hełm ochronny), у якіх ёсьць непрапускаючы цяплыні слой коркавага дзерава.

**Даўжыня дня і ночы**. Сонца ў Абісыніі заўсёды ўсходзіць і заходзіць у адну і тую ж пару: каля 6-ае гадзіны раніцы і ў 7-ай вечару. Як дзень, так і ноч круглы год цягнуцца аднолькава — па 12 гадзін на пару. Калі і ёсьць розніца (дзе троху даўжэй, дзе карацей), дык самая невялікая.

—Ну, у нас зусім ня так, — перабіў Мароз. У нас зімою ночы, а летам дні—бывае—цягнуцца гадзін па 16. Перад Калядамі і Іваном Купалай.

—А ці ты чуў пра месцы на зямлі,—сказаў Дрозд,—дзе ноч зімою цягнецца паўгода? Таксама як і дзень летам. Сонца не пасьпее зайсьці, як ужо пара яму і ўставаць.

—Нам расказваў настаўнік, ўспомніў Тамковіч,—што далёка, далёка на поўначы ёсьць такая гара, скуль у некаторыя дні летам можна бачыць зусім незаходзячае сонца.

—Ноч у Абісыніі — чытае далей „прафэсар“ Бычок—спу-

шчаецца на зямлю амаль раптоўна, і таму адразу спыняецца ўсялякі рух, нават у гарадох (абісынскія гарады пакуль што ня маюць асьвятленьня на вуліцах). Ночы там наагул вельмі цёмныя. Толькі калі ёсьць месяц на небе, бывае відна так, што можна чытаць кнігу.

—На поўначы — сказаў Мароз — дык шэсьць месяцаў стаяць так званыя „белыя ночы", калі ўсё навакол можна бачыць, як днём. Дзядзька расказваў, што ноччу проста ня хочацца класьціся спаць. Думаеш, — кажа, — што цягнецца яшчэ дзень.

**Поры году.** У Абісыніі не чатыры поры году, а толькі дзьве — сухая і дажджлівая, т. зв. „Карыф". Эўрапэйскае зімы з марозамі, сьнегам, завірухамі там ня бывае ніколі. Дажджы йдуць спачатку ў сакавіку — красавіку, даволі густыя, але кароткія. Потым як пачнуцца ў палове чэрвеня, дык льлюць да канца кастрычніка: спачатку раз на пару па аднэй гадзіне і ў адзін і той-жа час дня, пасьля ўсё часьцей і даўжэй. наканец, льлюць цэлы месяц, днём і ноччу, амаль зусім не перастаючы. Падчас дажджу вада залівае ўсё; перасохшыя ручайкі абяртаюцца ў магутныя рэкі, па якіх могуць хадзіць параходы. Гандаль і ўсялякія зносіны між гарадамі зусім спыняюцца, і грошы надта даражэюць.

Сьціхаюць дажджы не адразу, а паступова. Пасьля іх у Абісыніі настае праўдзівая вясна. Расьліннасьць — адна з найбагацейшых ў сьвеце — ажывае і, як у казцы, пачынае буйна расьці і цьвісьці. Будзяцца да жыцьця і ўсе птушкі і зьвяры. Выходзіць на сваю ральлю і чалавек (у полі працуюць пераважна жанчыны).

—А ці падчас дажджоў бываюць грымоты? — спытаўся Максімка.

—О, яшчэ якія! Пяруны б'юць кожную сэкунду, пяруны страшныя. Людзі ратунку ня маюць, бо ня ставяць грамаадводаў.

—Таксама, як і ў нас, — заўважыў Грыцук. Наша вёска яшчэ не зразумела іх патрэбы.

—Хутка зразумее. Пабачыце, — сказаў Дрозд.

**Паветра** ў Абісыніі хаця і разрэджанае, але вельмі чыстае — як над морам — і здаровае. Сырасьць падчас дажджоў ня шкодзіць здароўю чалавека. Толькі ў нізкіх і сырых далінах і лясох, дзе вечна — пад пякучым сонцам — гніе шмат усялякіх расьлінаў і паваленых навальніцамі дрэваў, пануе малярыя, або балотная трасца, якую разносяць камары. Бяз сеткі на твары ня можна ні хадзіць, ні спаць. На малярыю можна захварэць у некалькі гадзін. Адзіны ратунак ад яе — хіна.

Ад малярыі шмат гіне падарожнікаў — эўрапэйцаў, якія прыяжджаюць у Абісынію на паляваньне і дзеля гандлю.

—А ці жывуць у тых мясцох людзі? — спытаўся Рудак.

—Жывуць невялічкія плямёны нэграў, — адказаў Бычок. Яны зусім дзікія і займаюцца паляваньнем на дзікіх зьвяроў і... вайною адных з другімі. Усе яны прывыкшыя да такога клімату і маюць свае способы барацьбы з рознымі шкоднымі кузуркамі і зьмеямі, якіх тут водзіцца бяз ліку, ад самых маленькіх да 8-мэтровага пітона.

—У, страшна як! — выгукнуў наймалодшы з хлапцоў — Максімка.

—У Абісыніі, як і наагул у цэлай Афрыцы, сьмерць падсьцярагае цалавека на кожным шагу. Аб гэтам будзем чытаць далей іншым разам, — сказаў „прафэсар“, і ўсе навыперадкі пабеглі да сваіх хатаў.

(працяг будзе)

## ДОБРА ПОМНЮ.

Ах, добра я помню той край,
дзе ўлетку бярозавы гай
ціха шумеў, і быструю рэчку,
і гэтыя нівы, і белую грэчку
на ўзгорках -палосах,—з пад лесу сівога
вузенькую, ціхую сьцежку—дарогу,
каторай праходзіў калісь я бывала...
Эх, успамін засталося нямала!
Цяпер я далёка ад гэтай старонкі...
Ад песьняў, ад ніў каласістых і звонкіх
сюды на‘т зялёны іх шум не даходзіць
і вецер на‘т рэха сюды не даносіць.



**Вуч. Ю. Шупенька.**

## Б Р А Х У Н.

— Ізноў пайшлі маразы.

— Э, што гэта за маразы! Во я памятаю маразы: градусаў па 40—50! Тады пры такіх, як цяпер марозіках, градусаў па 15, была адліга, вада са стрэх лілася...

— Шкада, што табе, брахуну, за каўнер не налілося. Мо’ так не брахаў-бы.

## УСЯЧЫНА.

**Розная пара дня ў розных краінах сьвету.** Чым далей ад нас на ўсход, тым час пазьнейшы і чым далей на захад, тым час ранейшы. Калі ў Варшаве поўдзень, дык у Токіо (сталіца Японіі) 8 гадз. вечару, а ў Халівудзе (Каліфорнія — на заходнім узьбярэжжы паўночнае Амэрыкі) 4 гадз. раніцы.

**Асвоеныя ласі.** У адным горадзе Сыбіру ёсьць „ласіны двор“, дзе прыручаюць ласёў. Яны возяць з цяжарам сані і калёсы, ідуць у далекую падарожу, нават бегаюць навыперадкі з лепшымі коньмі. Лось — дужы зьвер. Доўга ён ня можа бегчы, але ходзіць хутка і доўга. Цяжар у адну тонну (60 пудоў) ён вязе хутчэй за каня, ідучы 7-8 кл. на гадзіну.



**Найглыбейшая капальня ў сьвеце** мае звыш 900 мэтраў глыбіні. На такой глыбіні вельмі горача, таму ў капальні пастаўлены асобныя прылады, каб астуджваць паветра. Разумеецца, гэтыя прылады каштуюць не малых грошаў, але затраты ў многа разоў пакрываюцца вартасьцю дабыванага золата.

## Да беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў.

Рэдакцыя „Снапка“, хочучы зрабіць гэты журнал якнайбольш карысным і цікавым для малых чытачоў, зьвяртаецца да ўсіх беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў з просьбаю пісаць і прысылаць на адрас: **Вільня, вул. Папоўская д. 9 кв. 4** — рознага зьместу расказы, вершы, казкі і т. п. для дзяцей. У галіне дзіцячае паэзіі і літаратуры ў нас блізу нічога няма. Нашы паэты і літаратары і раней пісалі і цяпер пішуць выключна для дарослага і сьведамага чытача. А ўжо даўно, даўно пара пачаць нам тварыць гэты так важны аддзел нашае літаратуры, — тым балей мы так бедныя і на буквары, і на чытанкі. Хто яшчэ не прабаваў пісаць для дзяцей, хай спрабуе. У іншых народаў ёсьць — як-бы сказаць — спэціяльныя дзіцячыя пісьменьнікі і паэты, якія пішуць пераважна ці выключна для дзяцей. Чаму такіх паэтаў ці пісьменьнікаў ня можа быць у нас? Без надумыснае дзіцячае літературы немагчымазаахвоціць дзяцей да навукі, да кніжкі.

Дзе шукаць крыніцаў для паэтычнага натхненьня пачынаючым дзіцячым паэтам і пісьменьнікам? Перш за ўсё у народнай творчасьці, усё багацьце якой даўно выяўлена і кожны дзень яшчэ і яшчэ выяўляецца нашымі этнографамі і зьбіральнікамі песьняў, казак, прыказак і т. п. Псыхалёгічна гэта зусім зразумела, бо тварыў гэты скарб народ-дзіця, — тварыў са сваім асобым дзіцячым складам думаньня і мовы, аднак выяўляючы пры гэтым далёка не дзіцячую жыцьцёвую мудрасьць. Што можа быць больш цікавым для дзяцей, як не гэтыя расказы і казкі, нязьлічонае багацьце якіх можна знайсьці не ў аднэй яшчэ старэнькай бабулькі з беларускае вёскі?! Некаторыя з гэтых казак не патрабуюць нават літаратурнай апрацоўкі, — да таго яны прыгожыя

ў сваёй першабытнай прастаце і беспасярэднасьці. Другой крыніцай паэтыцкага натхненьня будуць уласныя нагляданьні жыцьця дзяцей з іх штодзеннымі гульнямі і забавмі, заняткамі і інтарэсамі, дома і ў школе. Трэба толькі раз зацікавіцца гэтым сьветам, раз бліжэй падыйсьці да дзяцей і выклікаць да сябе іх давер і любоў.

За ўсякі матар'ял для „Снапка" Рэдакцыя будзе вельмі ўдзячна. Што можа калі ня зусім падойдзе для „Снапка", будзе перадана ў іншыя часапісы. Вельмі пажадана, каб „Снапок" якнайбольш быў пашыраны сярод дзяцей. Хай і самі яны пішуць у „Снапок" аб тым, што іх найбольш цікавіць.

Трэба, каб з працягам часу „Снапок" стаў сапраўдным беларускім дзіцячым часапісам.

Рэдакцыя.

## Паштовая скрынка.

**Сойка М.** Дарма высылаць „Снапок" больш нікому ня будуць. Толькі па падпісцы: 1 зл. на год, 50 гр. на паўгода. Зрабеце складчыну і пашлеце грошы па адрасу: Варшава 4, вул. Парыска 27.

**Піл. Апанасюк.** За народныя казкі рэдакцыя будзе вельмі ўдзячна.

## Загадкі.

„А" і „Бэ" сядзелі на трубе. „А" упала, „Бэ", прапала. Што засталося на трубе?

Як травы пад'ем, то зубы ступлю, а як пяску зьем, то зноў іх найду.

Маленькі, кругленькі, а за хвасток не падняць.

**Скарагаворка.** Скок, брык—добры бык. Рада баба, што прывык.

**Народ. прымета.** Калі на сьв. Пётра пойдзёць дождж, будзе жыта, як хвошч. Сьвяты Ільля — слаўная жняя.

**„СНАПОК" — царкоўны і культурна-асьветны журнал для дзяцей, з ілюстрацыямі.**

**на год 1 зл., на 1/2 года 50 гр. з перасылкай.**

**Цана асобнага нумару 10 гр. з перасылкай.**

Падпіска прыймаецца ў рэдакцыі „Слова":
**Warszawa 4, Paryska 27.**

У Вільні набываць „СНАПОК" за плату можна будзе — 1) у беларускай кнігарні „Пагоня" — вул. Завальная № 1, і 2) у кніжным складзе пры Сьв. - Духавым манастыры — вуліца Вострабрамская.

У справах рэдакцыйнага характару зварочвацца да гр. Сяргея Паўловіча па адрасу: **Вільня, вул. Папоўская, д. 9, кв. 4.** На адказ далучаць значкі паштовыя. На адрас гр. Сяргея Паўловіча прысылаць усе карэспандэнцыі і іншыя матар'ялы.

**Усе нумары „СНАПКА" зьбірайце: праз год, пераплёўшы, будзеце мець цэлую кніжачку.**

Warszawa. Drukarnia Synodalna. Paryska 27.